





*Музей савецка-польскай садружнасці пад Леніна.*


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 41 (920) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 14 КАСТРЫЧНІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.


Сустрэчы з землякамі

## ШКОЛА ДОБРЫХ ТРАДЫЦЫЙ



**— У Людовым Войску Польскім вялікая ўвага звяртаецца на выхаванне салдат у патрыятычным і інтэрнацыянальным духу. Ці Вы, таварыш генерал, — звяртаюся да намесніка камандуючага Варшаўскай ваеннай акругай п/с тэрытарыяльнай абароны краіны (ОТК), генерала брыгады доктара гістарычных навук РУДОЛЬФА ДЗІПАНАВА, — як ураджэнец Беласточчыны, а тым больш як „Заслужаны для Беласточчыны", з якім адзначэннем Вас сардэчна віншуем, не змаглі б сказаць некалькі слоў, як на практыцы ў часцях Варшаўскай ваеннай акругі вядзецца такое выхаванне салдат. Цікавіць гэта нашых чытачоў, бо, як вядома, на Беласточчыне пражывае шмат нацыянальных меншасцей, якія ў згоднай з палякамі сям'і актыўна ўдзельнічаюць у пабудове і развіцці сацыялістычнай Польшчы.**

— Людовае Войска Польскае было і ёсць школай патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання салдат. Указаннямі, акрэсліваючымі асноўны змест выхаваўчай работы ў ЛВП, з'яўляюцца для нас дырэктыўныя рашэнні кіруючай сілы польскага народа — Польскай аб'яднанай рабочай партыі, прынятыя на VI з'ездзе і пленарных пасяджэннях Цэнтральнага Камітэта.

Асноўнай мэтай гэтага выхавання з'яўляецца фармаванне ў салдат пачуцця высокай грамадзянскай свядомасці.

Патрыятычнае выхаванне, якое з'яўляецца фундаментам фармавання інтэрнацыянальнага стаўлення, абапіраем на прывіванні любві да сацыялістычнай айчыны, да народу.

Фармуючы эмацыянальныя і рацыянальныя вузы салдат з уласным народам, яго сучаснасцю і будучыняй, прывіваем аднačасова пачуццё дружбы да народаў Савецкага Саюза і братэрства па зброі з Савецкай Арміяй. У працы гэтай шырока выкарыстоўваем прыклады прагрэсіўных і рэвалюцыйных традыцый барацьбы за свабоду.

Варшаўская ваенная акруга мае выключна багатыя крыніцы такіх традыцый. Кожнае ваяводства, а нават кожная мясціна ў граніцах нашай акругі багаты мінуўшчынай, у тым ліку мінуўшчынай рэвалюцыйнай. Асобае месца акругі вызначае Варшава — наша сталіца, а таксама Люблін ці цэлы беластоцкі рэгіён, на тэрыторыі якога ініцыятыву барацьбы супраць нямецкага фашызму ў час апошняй вайны праявілі савецкія і польскія камуністы, ствараючы шырокі антыфашысцкі фронт барацьбы з акупантам. У састаў Варшаўскай ваеннай акругі ўваходзяць часці, якія ганарацца франтавымі традыцыямі — іх баявыя сцягі апраменены хвалай найвялікшых пераможных бітваў. Сярод іх — I Варшаўская механізаваная дывізія імя Т. Касцюшкі, першая рэгулярная часць ЛВП, якая побач з непераможнай Савецкай Арміяй несла свабоду нашаму народу. Фармаванне патрыятычнага і інтэрнацыянальнага стаўлення салдат складала ад першых дзён паўстання Людовага Войска Польскага састаўную частку выхаваўчага працэсу.

Пачэснае месца займала і займае выхаванне, якое можам назваць выхаваннем Касцюшкоўскім. Абапіраецца яно на традыцы-

(Працяг на стар. 4)

**28** верасня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. На ім былі абмеркаваны і зацверджаны правілы песенных і тэатральных конкурсаў 1974 года: „Беларускай песні — 74" (для дарослых і школьнага) і агляду тэатральных калектываў (таксама ў дзвюх узроставых катэгорыях). Пачнуцца яны ў лютым, а закончацца ў маі. Шырэй аб іх напішам у асобнай публікацыі. Сёння адзначым толькі, што будуць у іх і новаўвядзенні. Напрыклад, конкурс „Беларуская песня — 74" праходзіць будзе пад лозунгам „З песняй насустрач Трыццацігоддзю".



## ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

З нагоды юбілея нашай краіны Прэзідыум вырашыў таксама правесці агляд харавых калектываў. Плануецца ён у выглядзе свята песні, у прыгожым і людным месцы, з удзелам лаўрэатаў „Беларускай песні — 74". Магчыма, агляд гэты стане традыцыйным.

XXX-годдзю ПНР будзе прысвечана і папулярна-навуковая сесія, якую намецілі на май. Абмяркуецца на ёй дагэтуляшняя праца БГКТ. Прэзідыум акрэсліў тэмы асноўных дакладаў. Сканцэнтраваны яны навокал дзейнасці арганізацыйнай, літаратурна-навукова-выдавецкай і „Нівы".

Прэзідыум пазнаёміўся таксама з вынікамі кантролю, праведзенага ў ГП БГКТ рэвідэнтамі МУС у жніўні г.г., і прыняў адпаведныя рашэнні. Між іншым, вырашана асаблівую ўвагу звярнуць на сістэматычнае аплочванне членскіх складчын — найбольш слабое месца нашай арганізацыі. Не найлепш у нас і з продажам нашых кніжных выданняў і Забэйдавай пласцінкі. Гэтаму пытанню Прэзідыум таксама ўдзяліў увагу.

У арганізацыйных справах былі актуалізаваны абавязкі паасобных членаў Прэзідыума.

У пасяджэнні, апрача членаў Прэзідыума, прынялі ўдзел: Вальдэмар Вінярскі (МУС), Аляксандр Сеўко (ВК ПАРП) і Анатоль Несцяровіч (ВРН).

ЮВЭ

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Рэпартаж з Агароднікаў Бельскага павету ● Як да Гарадка геадэты дабрацца не могуць ● Пра навуку ашчаднасці ● Пра Сафію Панкаву ● Пра вырабы народных умельцаў аптымістычна ● Бульбяныя справы ў Дубічах крытычна ● До шлюбу, до шлюбу... (успаміны) ● Бягом па праспекту Леніна (2 частка) ● Весткі з Ягаднікаў, Дзернякова, Гайнаўкі, Азяблаў, Бельска, Орлі і Тапалян ● Песня з рэпертуару Стэні Казлоўскай „Nie tęsknię za nikim".**

## Спрыяльныя ўмовы і патрэбы

З нагоды Дня настаўніка мы звярнуліся да мгр Аляксандра Іванюка з просьбай даць інтэрв'ю для нашага часопіса. А. Іванюк — шматгадовы настаўнік, працуе ў аддзеле асветы Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы, з'яўляецца візітатарам па справах навучання беларускай мовы ў Гайнаўскім і Сямяціцкім паветах, ён — член Прэзідыума ГП БГКТ і старшыня гайнаўскага аддзела нашага таварыства.

**„Ніва":** — Скажыце, калі ласка, як праходзіць рэарганізацыя пачатковых школ у Гайнаўскім павеце?

**Візітатар А. Іванюк:** — Канкрэтны план іх рэарганізацыі ўжо апрацаваны і зацверджаны Прэзідыумам ПРН, куратарыяй БША і цяпер рэалізуецца. Ён прадбачвае, што да 1978/79 навучальнага года ў нашым павеце будуць працаваць 8 гмінных, 5 зборных і 31 філіяльная пачатковая школа. Увядзенне ў жыццё гэтай канцэпцыі адбываецца паступова і сістэматычна, г.зн. у час, калі адбываецца абніжэнне арганізацыйнай ступені і ліквідацыя некаторых школ, аднačасова наступае ўмацаванне (кадравае і матэрыяльнае) і развіццё (павелічэнне школьных памяшканняў або нават будова новых будынкаў) гмінных і зборных школ. Зразумела, што ў гэтай велізарнай працы дзяржаўныя і асветныя органы маюць некаторыя цяжкасці, перш за ўсё ў арганізацыі давозу дзяцей у школу і ў забеспячэнні адпаведных памяшканняў для вучобы. Нялёгка таксама было перамагчы мясцовы „патрыятызм". Праўда, часам вёска ўнесла вялікі ўклад у пабудову і абсталяванне „сваёй" школы, таму цяпер яна цяжка ўс-

(Працяг на стар. 4)

# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

**СВЕТ** | **БССР** | **ПОЛЬШЧА** | **ВАЯВОДСТВА**

## СВЕТ

### ГАНДЛЁВЫЯ СУВЯЗІ

Нядаўна завяршыла работу ў Маскве III сесія савецка-амерыканскай камісіі па пытаннях гандлю. Яна была ўтворана ў маі 1972 года ў Маскве.

На сесіі абмяркоўвалася шырокае кола пытанняў, у тым ліку перспектывы значнага павелічэння двухбаковага гандлю і доўгатэрміновага супрацоўніцтва па прамысловых праектах, уключаючы праекты, звязаныя з пастаўкай сібірскага прыроднага газу ў ЗША, і праект па развіцці энергаёмістых вытворчасцей у СССР.

У сумесным камюніке савецка-амерыканскай камісіі па пытаннях гандлю тавараабарот паміж СССР і ЗША, які склаў 900 мільёнаў долараў, перавысіў увесь савецка-амерыканскі гандаль за апошнія два гады. Прадугледжваецца, што ў гэтым годзе аб'ём гандлю паміж краінамі дасягае прыкладна паўтара мільярда долараў. Гэта адпавядае запланаванаму ўзроўню гандлю ў 2—3 мільярды долараў за наступныя тры гады, прадугледжанаму ў час перагавораў паміж Генеральным сакратаром ЦК КПСС Л. Брэжневым і прэзідэнтам ЗША Р. Ніксанам у чэрвені 1973 года.

### ВЫНІКІ ВЫБАРАЎ

30 верасня ў Францыі адбыўся другі тур кантанальных выбараў, які азнаменаваўся істотным рухам направа левых сіл.

Галасаванне праходзіла ў 955 кантонах краіны, дзе ніводзін з кандыдатаў не атрымаў у першым туры абсалютнай большасці галасоў.

На кантанальных выбарах выбіраюцца члены генеральных саветаў дэпартаментаў, якія адыгрываюць важную ролю пры вырашэнні мясцовых пытанняў. На гэтых выбарах абнаўлялася палавіна саставу генеральных саветаў, гэта значыць трэба было выбраць 1.988 саветнікаў.

Па 1958 кантонах, тры партыі ўрадавай большасці і палітычныя групоўкі, якія падтрымліваюць іх, атрымалі разам па выніках двух тураў галасавання 847 месц, заваяваўшы 144 месцы.

Французская кампартыя, сацыялістычная партыя, рух левых радыкалаў і аб'яднаная сацыялістычная партыя правялі ў генеральныя саветы 717 кандыдатаў, павялічыўшы сваё прадстаўніцтва на 208 месц.

### ВАЖНАЯ ПРАПАНОВА

Савецкая прапанова аб скарачэнні ваенных бюджэтаў дзяржаў — пастаянных членаў Савета Бяспекі ААН на 10 працэнтаў і аб выкарыстанні часткі сэканомленых сродкаў на аказанне дапамогі краінам, якія сталі на шлях развіцця, уключаная ў парадак дня цяперашняй сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, з'яўляецца важнай прапановай, якая заслугоўвае вялікай ўвагі. Так ахарактарызаваў новую ініцыятыву Савецкага Саюза Генеральны сакратар ААН Курт Вальдхайм. (ак)

## БССР

### САЛОДКАЯ СЫРАВІНА

З Любаньскага раёна паведамляюць, што калгасныя гаспадаркі дабіліся там высокага ўраджаю цукровых буракоў. У многіх гаспадарках з аднаго гектара сабралі па 350—400 цэнтнераў карэнняў. Уборку гэтай салодкай сыравіны першы распачаў калгас „Кузьмічы“. Буракі ён дастаўляе на Слуцкі цукрова-рафінадны завод.

### КЛУБ НА КАЛЁСАХ

Пры Маладзечанскім раённым аддзеле культуры дзейнічае клуб палітычнай інфармацыі. Яго ўдзельнікі ў час уборкі ўраджаю пабывалі ў многіх калгасах і саўгасах раёна, на палях і фермах. На вясковых сцэнах яны далі больш 50 канцэртаў.

### 25-ГОДДЗЕ ІНСТЫТУТА ЗАМЕЖНЫХ МОЎ

Споўнілася 25 гадоў працы Мінскага інстытута замежных моў. Першыя выпускнікі пакінулі гэтую вышэйшую навучальную ўстанову ў 1949 годзе. Было іх тады ў 52 разы менш, чым цяпер. Калі інстытут распачынаў сваю дзейнасць, працавала ў ім 45 выкладчыкаў, цяпер — 650. Інстытут вядзе таксама завочныя курсы, на якіх штогод займаецца да 500 чалавек.

### ВАСЕМНАЦЦАТЫ СЕЗОН

29 верасня свой васемнаццаты сезон адкрыў Рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі. У гэты вечар гледачы сустрэліся з героямі п'есы А. Валодзіна „З любімымі не расставайся“. Спецыяльна для гэтага тэатра Іван Шамякін напісаў п'есу „Экзамен на восень“, якая расказвае аб пошуках жыццёвых шляхоў моладдзю.

### ЮБІЛЕЙ ПІСЬМЕННІКА

Вядомаму беларускаму пісьменніку Сяргею Грахоўскаму 25 верасня споўнілася 60 год. У творчым набытку гэтага літаратара знаходзіцца 6 зборнікаў паэзіі і некалькі кніжак прозы. Добра ён вядомы таксама як перакладчык і аўтар дзіцячай літаратуры.

### СЫРАКОМЛЯ І БЕЛАРУСЬ

Споўнілася 150-я гадавіна з дня нараджэння паэта-дэмакрата Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі). Яго паэзія ўвабрала ў сябе матывы і вобразы беларускай народнай творчасці, шэраг твораў напісаў ён на беларускай мове. Памятаючы і любячы творчасць Сыракомлі ў Беларусі. Тыднёвік „Літаратура і Мастацтва“ з нагоды 150-ай гадавіны з дня нараджэння паэта надрукаваў новыя пераклады яго твораў.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

Даўняя братэрская дружба ўсталявалася паміж працоўнымі Магілёўскай вобласці і Габраўскай акругі Народнай Рэспублікі Балгарыі. Шматлікія прамысловыя калектывы горада Магілёва і перадавых гаспадарак вобласці нярав ездзілі ў НРБ для абмену вопытам, а літаратурна-мастацкія калектывы Балгарыі выступалі на Магілёўшчыне. Нядаўна ў Балгарыю выехала вялікая група магіляўчан. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ДА І КРАЁВАЙ ПАРТЫЙНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

Ва ўсіх ваяводствах і ва Узброеных сілах адбыліся пленарныя пасяджэнні камітэтаў партыі. Адбываліся яны ў сувязі з набліжэннем І Краёвай партыйнай канферэнцыі і былі прысвечаны пытанню хутчэйшай рэалізацыі пастановы VI з'езду партыі. На пленумах былі таксама выбраны дэлегаты на І Краёвую канферэнцыю. Першы пленум адбыўся ў Катавіцах, на ім прысутнічаў І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк.

### ТЭЛЕГРАМА Э. ГЕРКА ДА ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ААН

І Сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк выслаў тэлеграму Генеральнаму сакратару ААН К. Вальдхайму, у якім звяртаецца з заклікам зрабіць усё, каб не дапусціць да смерці Генеральнага сакратара Камуністычнай партыі Чылі А. Карвалана, які змагаўся за свабоду, дэмакратыю і прагрэс.

### КАСТРЫЧНІК — МЕСЯЦ АШЧАДНАСЦІ

Урачыстае адкрыццё сёлетняга месяца ашчаднасці адбылося ў Беластоку, таму што тут назіраецца найбольшы ўзрост ашчаднасцей насельніцтва. Сёння стан ашчаднасцей у ПКО і СОП раўняецца 197 мільярдам злотых.

### БУДЗЕ ЦУКАР

Распачаўся гарачы сезон у цукроўнях. Буракі з палёў прывозяцца безупынна і ўсе цукроўні на поўным ходзе. Прыпомнім, што на Беласточчыне ў Лапах будуецца адна з найбольшых цукроўняў у краіне.

### ШКОЛА-ДЗЕСЯЦІГОДКА

У выніку працы экспертаў і шырокай дыскусіі выпрацаваўся мадэль будучай польскай школы. Праект яе будзе прадстаўлены да зацвярджэння Сеймам. Школа будзе 10-гадовая ад 1 да 10 класа, будзе гэта школа сярэдняя і абавязковая.

### ТЭЛЕВІЗІЯ ДЛЯ КАНДЫДАТАЎ У ВЫШЭЙШЫЯ ШКОЛЫ

Ад кастрычніка тэлевізія пачала тэлевізійны курс па матэматыцы і фізіцы для кандыдатаў у вышэйшыя школы, якія ў будучым годзе захочуць здаваць экзамены. У рамах курсу будуць задавацца кантрольныя працы, якія трэба будзе пасылаць для праверкі ў Варшаўскую, або Вроцлаўскую палітэхніку.

### ЦЭМЕНТОЎНІ

Прадбачыцца вялікая мадэрнізацыя цэментавай прамысловасці. Зараз будуецца пяць вялікіх цэментоўняў. У Апольскім ваяводстве распачаліся нядаўна працы пры будове найбольшай і найбольш сучаснай цэментоўні ў Польшчы „Гураждвы“. Яна будзе прадукаваць у год 2,4 мільёна тон цэменту. У 1975 годзе ўся прадукцыя цэменту перавысіць 21 мільён тон у год.

### ВІЗІТ СЯБРОЎ

Па запрашэнню Галоўнага праўлення ТППР у Польшчу прыехала 120-асабовая група дзеячоў Таварыства савецка-польскай дружбы. У складзе дэлегацыі ёсць прадстаўнікі 11 савецкіх рэспублік. Таварыства савецка-польскай дружбы існуе ўжо 15 год. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРТЫІ

6 кастрычніка адбылося апошняе перад І Краёвай партканферэнцыяй пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі. У працы пленума ўдзельнічалі намеснік члена Палітбюро ЦК, міністр унутраных спраў С. Кавальчык, члены і намеснікі членаў ЦК Л. Дэмянюк, С. Багуцкі і Ул. Лотыш, прадстаўнік арганізацыйнага аддзела ЦК М. Шчыпэк, старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха і іншыя.

Вёў пасяджэнне І сакратар ВК партыі З. Куроўскі.

Галоўнай тэмай пасяджэння было падсумаванне дасягненняў, з якімі наша ваяводская партарганізацыя ідзе на І Краёву партканферэнцыю.

У апошнія гады, як сцвердзіў З. Куроўскі, Беласточчына дабілася значных і грамадска адчувальных вынікаў у грамадска-гаспадарчай праграме развіцця Польшчы. Найлепшы доказ гэтага — узрост рэальнай зарплаты ў апошнія гады, які быў большы, чым за цэлае дзесяцігоддзе ў 1961—1970 гадах. Наша ваяводства займае цяпер адно з першых месц у краіне па дынаміцы развіцця гаспадаркі. Сёлета ўзрос у параўнанні з мінулым годам ураджай чатырох збожжавых культур да 2,6 цэнтнера з гектара. Такога ўзросту не было ў іншых ваяводствах. Пагалоўе быдла ўзрасло на 6,3%, а свіней — на 22,1%. Вельмі высокую дынаміку ўзросту выказала наша будаўніцтва — 21%. За 9 месяцаў гэтага года прырост глабальнай прадукцыі прамысловасці склаў 15%, а сярэдняя ў краіне — 12%.

У гэтым годзе наша ваяводства дасягнула ў сельскай гаспадарцы такіх вынікаў у глабальнай прадукцыі, якія былі запланаваны на 1975 год.

Аднак, як падкрэсліў З. Куроўскі, у параўнанні з узрастаючымі патрэбамі, а асабліва з узростам даходаў насельніцтва, атрыманыя вынікі не могуць быць прызнаны задавальняючымі. Бо вынікі гэтыя могуць быць значна лепшымі, калі б удалося ліквідаваць існуючыя яшчэ ў гаспадарцы адмоўныя з'явы, такія, як няроўны ўклад у дасягненні паасобных прадпрыемстваў і людзей, узрост прадукцыі яшчэ ў значнай меры за кошт узросту рабочай сілы, раздрабненне фронту работ і іншыя. Галоўныя задачы на бліжэйшыя гады — гэта выкарыстанне ўсіх рэзерваў і далейшы прагрэс у паляпшэнні якасці прадукцыі.

На заканчэнне дыскусіі выступіў міністр унутраных спраў С. Кавальчык. Ён падкрэсліў галоўныя праблемы ў развіцці краіны, называючы ў першую чаргу ўтрыманне рынкавай раўнавагі, хутчэйшае развіццё паслуг і інвестыцыйных працэсаў, павелічэнне экспарту.

Пленум прыняў пастанову, у якой дасягненні Беласточчыны атрымалі дадатнюю ацэнку, але падкрэслены былі і недахопы. У пастанове накрэслены таксама галоўныя напрамкі працы ваяводскай партарганізацыі для ўмацоўвання высокай дынамікі развіцця рэгіёна.

Пленум выбраў 47 дэлегатаў на І Краёвую канферэнцыю, а таксама адобрыў „Прапановы ВК ПАРП па справе галоўных напрамкаў працы гмінных камітэтаў партыі ў ваяводстве“ і эфекты грамадскай працы ў Дзень партыі на Беласточчыне. (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 14.X.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy. 8.10 „Przypominamy, radzimy”. 8.20 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 8.45 „Bieg po zdrowie”. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Kwiecień” — film fab. pol. 11.40 Dziennik. 11.55 Uroczysta Zmiana Warty przed Grobem Nieznanego Żołnierza w Warszawie. 12.35 „Wielka parada” — koncert ogólnopolskiego Festiwalu Orkiestr Wojskowych „Świeradów—Zdrój 73”. 13.35 „Przemiany”. 14.05 Dla dzieci: „Co to jest?” — konkurs—zabawa. 14.45 Losowanie Totolotka. 15.00 Klub Sześciu Kontynentów: „Kairskie opowieści” („Wyprawa do Egiptu”) cz. I. 15.35 „Wielka gra”. 16.25 „Piosenka dla Ciebie”. 17.15 „Edukacja młodzieży polskiej” (program z okazji 200 rocznicy powstania Komisji Edukacji Narodowej). 18.00 „Tele—Echo”. 19.05 „Kryteria”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Gorzkie żniwa” — film ang. („Kuzynka Bietka”) odc. IV. 21.05 PKF. 21.15 „Małgorzata Niemirska przedstawia”. 21.55 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 15.X.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec”. 17.30 „Echo stadionu”. 17.55 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: J. Janicki — „Ballady wojenne”. 21.15 „Sezam”. 21.45 Wanda Wiłkomirska gra „Mity” K. Szymanowskiego. 22.05 Dziennik.

**Wtorek 16.X.**

10.00 Dla szkół: (kl. IV) „W dwusetną rocznicę”. 10.20 „Czterysta batów” — film fab. franc. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — J. Szaniawski — „Dwa teatry”. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Rodzina Durtolów” — film franc. odc. V. 17.15 Program publicystyczny. 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.55 Telereklama. 19.00 Grają i śpiewają zespoły kubańskie „Los Papines” i „Los Pachucos”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Czterysta batów” — film fab. franc. 21.55 „Ex libris”. 22.25 Dziennik. 22.40 Wiadomości sportowe.

**Środa 17.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Gaz życia”. 9.30 „Blask czarnej świecy” — film NRD odc. II. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Przyrządy optyczne”. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Rządy parlamentarne”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze:: Botanika. 16.15 Program dnia. 16.20 PKF. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Mój dom rodzinny” („Obyczaje”). 17.10 Dla dzieci: „Pies Bigos i Tomek Pan”. 17.40 „Sylwetki X Muzy” — Bogusław Sochnacki. 18.10 Magazyn ITP. 18.20 Losowanie Małego Lotka. 18.35 TV Kurier Warszawski. 18.50 „Nad rodowodem ssaków” („Nauka i światopogląd”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.40 Transmisja z meczu piłki nożnej Anglia—Polska (eliminacje do Mistrzostw Świata). 21.35 „Póki starczy tchu” — film NRD („Blask czarnej świecy”). 22.25 Dziennik.

**Czwartek 18.X.**

9.15 „Alfred Hitchcock przedstawia”: „Nocny gość” — film USA. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „W pracowni mistrza”. 10.30 Powtórzenie transmisji z meczu piłki nożnej Anglia—Polska. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Reymont”. 13.30 TV Kurs Informatyki: Sprzęt informatyki. 14.00 Matematyka w szkole: Znakowanie literowe w początkowym nauczaniu matematyki. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 „Szlakiem orlich gniazd” („Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza”). 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Zielony świat” — program publ. 19.05 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 ALFRED HITCHCOCK PRZEDSTAWIA: „Nocny gość” — film USA. 21.00 Program publicystyczny. 21.30 „Koniec turnusu”. 22.30 „Informacje, Towary, Propozycje”. 22.40 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe.

**Piątek 19.X.**

9.45 „Kłopoty z cnotą” — film fab. jugosł. 11.05 Dla szkół: (kl. II) „Czarodziejskie słowa”. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysposobienie obronne — „Ludowe Wojsko Polskie w służbie narodu”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora”. 17.20 „Nie tylko dla pań”. 17.50 TV Kurier Warszawski. 18.10 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.45 Telereklama. 18.50 „Za kierownicą”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Kwiaty z tamtych dni”. 20.45 „Panorama”. 21.25 Teatr TV na świecie: I. Bukovcan — „Nie zapieje kur”. 23.00 Dziennik. 23.15 Wiadomości sportowe.

**Sobota 20.X.**

10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Organizmy jednokomórkowe”. 10.30 „Jak zabić starszą panią” — film fab. ang. 14.20 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.40 „Wychowanie fizyczne receptą na zdrowie”. 18.05 Program Red. Wojskowej. 18.35 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Program estradowy. 21.15 „Jak zabić starszą panią” — film fab. ang. 22.40 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe. 23.05 „Canzonissima” — program rozr. TV włoskiej.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 12 października**

8.15 Film fab. 9.30 Szkoła szachów. 10.00 Cyrk. 13.05 Program dnia. 13.10 Koncert. 16.10 Film animowany. 17.00 Świat socjalizmu. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 20.40 Piłka nożna. „Czernomoriec” (Odessa) — „Nistru” (Kiszyniów), 2 połowa.

**Sobota, 13 października**

7.00 Program dnia. 7.30 Mozaika muzyczna. 7.40 Przegląd międzynarodowy. 7.55 Chór im. A. Piatnickiego. 11.00 „Cichy Don”. Film fab. 12.30 Spektakl TV. 13.30 Hokej. „Dynamo” (Moskwa) — „Torpedo” (Gorki). 3 tercja. 15.30 Moda i my. 16.10 Reportaż z Lenino (z obchodów XXX-lecia LWP). 17.35 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.30 c.d. spektaklu. 20.10 Śpiewa W. Wujaczycz. 21.10 Konkurs piosenki radzieckiej.

**Niedziela, 14 października**

7.00 Program dnia. 9.00 Filmy animowane. 10.30 Kiosk muzyczny. 13.35 Koncert życzeń. 14.30 Panorama międzynarodowa. 15.00 Klub filmowy. 17.30 Piłka nożna. „Szachtior” (Donieck) — „Ararat” (Jerewan). 2 połowa. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. Po zakończeniu „Nowiny” i mecz piłki nożnej „Dynamo” (Mińsk) — „Kajrat” (Ałma-Ata).

наша з глыбокай пашанай апякуецца могільнікамі і магіламі савецкіх салдат, што загінулі ў змаганні за вызваленне Польшчы; салдаты многіх часцей ВВА, а ў тым ліку і часцей, што размешчаны на Беласточчыне, утрымоўваюць пастаянную сувязь з салдатамі Савецкай Арміі. Штогод шматлікія дэлегацыі салдат з часцей ВВА наведваюць савецкіх сяброў па зброі, між іншым, у Гродна, у Брэсце, а савецкія таварышы раней і цяпер з'яўляюцца частымі гасцьмі на Беласточчыне, Любліншчыне, а таксама ў вайсковых часцях іншых рэгіёнаў. Пад канец мінулага года, у час святкавання 50-годдзя ўтварэння СССР, Варшаўская ваенная акруга наладзіла эстафету польска-савецкай дружбы. Удзельнікамі яе былі польскія і савецкія салдаты. Адным з этапаў эстафеты была Беластоцкая зямля, на якой у Беластоку, Гайнаўцы і іншых мясцовасцях прайшлі маніфестацыі і мітынгі. Удзельнікі эстафеты аддалі належную пашану вызваліцелям гэтых зямель — салдатам Савецкай Арміі. Вельмі шырокія і жывыя сувязі ўтрымоўваем з салдатамі Паўночнай групы войск Савецкай Арміі, а, напрыклад, у I Пражскім механізаваным палку I ВМД імя Т. Касцюшкі ніводная ўрачыстасць не адбываецца без удзелу савецкіх салдат. Шырокія штодзённыя сувязі ўтрымоўваюць іншыя часці I ВМД імя Т. Касцюшкі.

**— Ці маглі б Вы, таварыш генерал, хоць бы коратка ахарактарызаваць уклад людзей Беласточчыны ў стварэнне і развіццё Людовага Войска Польскага?**

— Уклад людзей Беласточчыны, як і ўсяго беластоцкага рэгіёна ва ўтварэнне і развіццё ЛВП вялікі. Акрэслілі гэта наступныя фактары:

1. Шырокі ўдзел грамадства Беластоцкай зямлі ў антыфашысцкім руху супраціўлення, арганізаваным і кіраваным савецкімі камуністамі. У савецкіх партызанскіх брыгадах побач з многімі нацыянальнымі меншасцямі актыўны ўдзел прымала польскае насельніцтва.

2. Пасля вызвалення беластоцкага рэгіёна Савецкай Арміяй удзельнікі падпольнага руху супраціўлення папоўнілі рады Савецкай Арміі і Людовага Войска Польскага.

3. Пры неабходнасці далейшай мабілізацыі ўсіх сіл народа на барацьбу з гітлераўскім акупантам аж да канчатковай перамогі вызваленая ў ліпені 1944 года Беласточчына, побач з Люблінскім ваяводствам, была асноўнай базай для новых атрадаў ЛВП. На гэтых землях утваралася і арганізавалася 9 дывізія пяхоты, якая пасля слаўнага баявога шляху атрымала названне „Дрэздэнскай“.

Паводле ацэнак гісторыкаў, кожны трэці салдат I Арміі ВП паходзіў з Беласточчыны. Сярод іх былі:

— Генерал Аляксандр Вашкевіч — камандуючы 5 ДП ВП, Герой Савецкага Саюза.

— Харунжы Ян Шыманскі — загінуў смерцю героя ў бітве пад Студзянкамі. Пасмяротна адзначаны Крыжам Грунвальда.

— Капітан Уладзіслаў Высоцкі, пасмяротна ўзнагароджаны Зоркай Героя Савецкага Саюза.

— Антоні Яблонскі і Аляксандр Карповіч 2 мая 1945 года былі сярод 5 салдат I ДП імя Т. Касцюшкі, якія павесілі бела-чырвоны сцяг на Калоне Перамогі ў Берліне.

Многія беластаччане, заслужаныя ў баях у час II сусветнай вайны, да сённяшняга дня нясуць службу ў радах ЛВП, займаючы адказныя пасты. Сярод іх генерал дывізіі Уладзімір Саўчук, генерал дывізіі Зыгмунт Гушча, генерал брыгады Генрых Качара, плк. др Тадэуш Шаціла і многія іншыя, хто сваёй штодзённай працай уносіць уклад ва ўмацаванне нашых Народных Узброеных Сіл.

Гутарку правёў
**маёр Тадэуш Тэнчынскі**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЯМЕЙНАЯ

Moderato



Ой, ма-ті сын-ка то й о-жэ-ні-ла, то й о-жэ-ні-ла,



А нэ-віс-тонь-ку то й нэўз-лю-бі-ла, А нэ-віс-



тонь-ку то й нэўз-лю-бі-ла.

*Ой, маті сынка то й ожэніла, то й ожэніла,*
*А нэвістоньку то й нэўзлюбіла,*
*А нэвістоньку то й нэўзлюбіла.*
*Послала сынка поле ораті, поле ораті,*
*А нэвістоньку — хустонькі праті,*
*А нэвістоньку — хустонькі праті.*
*Ой, прала, прала, пэрэбірала, пэрэбірала*
*Іе матуля нэ сподобала,*
*Іе матуля нэ сподобала.*
*Ой, прыйшоў сынок з поля ораня, з поля ораня,*
*А нэвістонька хустонькі спрала,*
*А нэвістонька хустонькі спрала.*
*Посаділа сынка то й за століком, то й за століком.*
*А нэвістоньку то й коло пэчы,*
*А нэвістоньку то й коло пэчы.*
*Дала сынкові міед-віно піті, міед-віно піті,*
*А нэвістоньці — то й чэмэрыці,*
*А нэвістоньці — то й чэмэрыці.*
*Ой, пілі, пілі, поўпівалісе, —*
*Одно на друге посхілялісе,*
*Одно на друге посхілялісе.*
*— Ой, Божэ, Божэ, што я зробіла, што я зробіла?!*
*Я своє діеті то й потрутіла!*
*Я своє діеті то й потрутіла!*

Ад Анны Стахвіюк, 1924 года нараджэння, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 2 жніўня 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

## Этнаграфічнае акенца



*Пачатковая школа ў Старым Корніне Гайнаўскага павету.*
*Фота Я. Цялушэцкага*

„падкідваў“ „віліс“-ам журналістаў на перадавую, няраз трапляў пад кулямётны абстрэл праціўніка і бамбёжкі нямецкай авіяцыі. Пад Пілай, ужо на тэрыторыі Польшчы, рэдакцыя і друкарня аказалася ў акружэнні. На шчасце, пасля крывавага бою неяк прарваліся да сваіх. Але 7 мая 1945 года нямецкі панцэрфауст трапіў у машыну і цяжка параненаму М. Федаровічу давялося праляжаць звыш трох месяцаў у шпіталі ў Катавіцах.

Нястрымная прага хутчэй вярнуцца ў родны дом, абняць сваіх блізкіх не дазволіла яму, як след, залячыць раны. Як толькі змог ён устаць на ногі, адразу падаўся ў Бельск. Вяртанне ж было і радаснае і сумнае: не было ўжо бацькі, два старэйшыя браты не вярнуліся з фронту, у часе вайны згарэў бацькоўскі дом.

На пустым загонцу пад Бельскам былы франтавік, з усё адкрываючыміся ранамі, згарудаваў неяк домік-хлявушок і пачаў новае жыццё. Утрымаць сябе і сям'ю з лапіны зямлі было немагчыма. Пайшоў М. Федаровіч працаваць інструктарам у ГС, а затым у прэзідыум ПРН у Бельску Падляшскім. Працуе ён і цяпер у аддзеле камунікацыі ППРН, сочыць за адпаведным тэхнічным станам машын у павеце і належнай працай шафёраў. Добра ведаюць і шануюць былога вадзіцеля з франтавых дарог шафёры Бельшчыны.

Але не толькі прафесіянальная праца займае М. Федаровіча. На працягу шасці год (1965—1971) ён быў старшынёй бацькоўскага камітэта пры Бельскім беларускім ліцэі. Кожную сваю вольную хвіліну прысвячаў гэтай школе, арганізоўваў грамадскія чыны бацькоў пры розных працах у ліцэі і сам ахвярна працаваў, так што бацькоўскі камітэт заўсёды быў надзейнай падпорай і памочнікам у выхаваўчай працы школы. Не спыняў М. Федаровіч сваёй грамадскай працы сакратара ў бельскім сельскагаспадарчым гуртку і ў розных камісіях мясцовага ГС-у.

Цяпер у новым сучасным мураваным доме Федаровічаў на вуліцы Дубічы ў Бельску цішыня. Дачка і абодва сыны закончылі Бельскі беларускі ліцэй і вучацца ў вышэйшых школах або ўжо працуюць. Жонка Федаровіча даглядае ўраджаю ў агародзе і тупае пры невялікай гаспадарцы.

Сам Федаровіч толькі што вярнуўся з працы, і мы ўтрох заглыбіліся ва ўспамінах. На стале паяўляюцца старыя пісьмы, пацёртыя ў салдацкіх кішэнях розныя спраўкі, дыпломы з падзякай, дзяржаўныя адзначэнні: „Медаль перамогі і свабоды“, „Адзнака Грунвальду“, „Медаль за ўдзел у баях пад Берлінам“, „Заслужанаму на полю славы“, „Сярэбраны Крыж Заслугі“. Многа іх, але не менш, чым ахвярнасці і самааддання на нялёгкім жыццёвым шляху ў гэтага заслужанага салдата з-пад Леніна.

Кіраваўся ж ён у сваім жыцці службай радзіме, ахвярнай працай для грамадства і любоўю да сваіх родных мясцін.

**Мікалай Гайдук**
Фота **Р. Сянько**

## ЛІСТ 3 Задрыпанкі

# І МЫ НЕ ЛЫКАМ ШЫТЫ

Калі маю Гапку, нягледзячы на яўны канфуз на вядомым ужо вам юбілеі, зноў паслалі ў Беласток, значыць не страціла яна рэпутацыі. І лішнімі былі нашы хваляванні. І дарма мы так спешна драпалі з той гасціны. Праўда, на Цэнтральныя дажынкі Гапка не паехала, але і адбор на іх быў надта строгі. Затое на сельскагаспадарчую выстаўку, калі ласка, ветліва просім.

І так мы тут. Праз парадны ўваход ідзем па стрэлках, каб не прамінуць нічога. Нават Гапка адстала ад начальства і не можа ўдосталь наўзірацца на пародзісты, казачна-белы курыны род і не менш прадстаўнічую гусіную камарыллю.

А карціны ўсё цікавейшыя: пацукападобныя норкі: шэрыя, белыя, плацінавыя і — самы шык — чорныя („Стандарт“); гладкія, як бабры, нутрыі; вёрткія, як мышкі, шыншылы і цудоўныя галубыя лісы.

— Вось задрыпанцаў сюды, — кажа Гапка, — можа б і наша вёска ашыншынілася.

Чаму не, усё, што на выстаўцы, выгадавана ж не за гарамі, а ў нас, на Беласточчыне.

Каля стаянкі быдла зацікаўленні наведвальнікаў раздвойваюцца: гарадскія гуртуюцца ля сланаватых (амаль стопудовых!), белых быкоў, а вясковыя людзі аддаюць перавагу нашай будучыні — сярэдняга росту чорна-белым кароўкам. Гапка нават праціснулася да загароды і дабілася ў абслугоўваючага персаналу (той якраз даіў экспанаты) свежага малачка.

На маё пытанне, ці смакаваў сырадой, Гапка адказала:

— Энцэбэ!

Значыць, і кароўкі ёй спадабаліся.

Паколькі Гапка — дзеяч культуры, не маглі мы прамінуць і эстрады. Быў дзень паўднёва-ўсходніх паветаў і на эстрадзе выступалі мастацкія калектывы гэтага кутка Беласточчыны. Згадзіліся мы з Гапкай: найбольш удала выступіла Саколка. Але калі дайшло да конкурсу сельскагаспадарчых ведаў, дык прадстаўнік гэтага павету не адважыўся выйсці на эстраду. Нарабіў у порткі, відаць, і гайнаўскі чэмпіён, бо колькі яго не выклікалі, таксама не з'явіўся. Давялося дакамплектоўваць змагароў добраахвотнікамі. Рашучасць праявілі хлопцы з Бельшчыны і занялі вакантныя месцы. І адказвалі паспяхова. Гапка нават шкадавала, што сама не ўступіла ў спаборніцтва: пытанні, аказалася, не былі такія страшныя.

Але цалкавітую зайздрасць убачыў я ў Гапкавых вачах, калі ішлі мы Алеяй заслужаных гаспадароў. Героі глядзелі на нас з вышыні вялікіх, прыгожа аформленых партрэтаў і інтрыгавалі. Вядома, прыемна было б убачыць тут і свой партрэцік, але для таго, каб збылася прага, самой ахвоты — мала. А можа ў гэты момант Гапка прымала абавязацельства зварухнуць задрыпанскую глухамань і выбіцца ў ваяводскія героі? Усё мажлівае. Выстаўка паказала ж, што і мы не лыкам шыты! **Ваш Даніла**

**(Працяг са стар. 3)**

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Кузьма Чорны больш нам вядомы як класік беларускага рамана. Яго багатая публіцыстычная дзейнасць незаслужана заставалася ў ценю, а яна не менш цікавая і цэнная, чым яго ўласная літаратурная творчасць. Р. В. Булацкі і І. І. Сачанка ў гэтым даследаванні якраз аналізуюць творчасць К. Чорнага — публіцыста. Кніга выйшла ў цыкле „Беларускія публіцысты“.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем рахункаў, калі гэтага патрабуе пакупнік). Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki“, Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

